# НОВАЕ ЖЫЦЬЦЁ

**Цана асобнага нумару 500 м. п.**

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільна, Вострабрамская вул., 9.**
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 штодня апрача сьвяточных дзён.

**Выходзіць раз у тыдзень.**

Падпіска на адзін месяц з дастаўкаў да хаты 2000 м. п. Для заграніцы ўдвая даражэй.

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад ня вертаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 1000 мк., сярод тэксту 800 мк. і на апошняй страніцы 600 мк. за радок пэтыту ў 1 шпальт.

**№ 5** **Субота, 31-га сакавіка 1923 г.** **Год I.**

**УВАГА!** Рэдакцыя і адміністрацыя газэты **„НОВАЕ ЖЫЦЬЦЕ“** з 20-га сакавіка (марца) зьмешчаецца на **ВОСТРАБРАМСКАЙ** вул. **№ 9**.

# За зямлю.

Ад вякоў потам, крывёй і сьлязьмі нашымі паліваная Маці-Зямліца—яна ёсьць мэта імкненьняў усяго беларускага сялянскага народу.

З пытаньнем аб зямлі зьвязана пытаньне аб быцьці, аб долі, аб шчасьці народу.

Без зямлі ня можа быць гутаркі і аб волі: бо хлебароб наш чуецца дужым і вольным толькі на родным загоне, бо без зямлі—гэнага галоўнага варштату працы — беларускі селянін пачувае сябе выбітым з сваяе каляіны.

І гэтае зямлі яго цяпер пазбаўляюць....

Мы маем на думцы колёнізацыйную палітыку польскага ўраду, што імкнецца да таго, каб засяліць занятыя Польшчай беларускія абшары польскімі жаўнерамі.

Падвойная крыўда робіцца ўсяму „тутэйшаму“ сялянству. Адно— тое, што тутэйшыя людзі, якія пры сваім малазямельлі частку сілы сваей рабочай прадавалі ў дварох, цяпер—з насяленьнем да нас новых рабачаяў на нацыяналізаваныя дворныя землі—гэтага заробку будуць пазбаўлены. Другое — што вольная рабочая сіла пры захаваньні старога малазямельля ня будзе выкарыстана да канца і на сваей гаспадарцы.

Якая-ж доля прысуджана нашым хлебаробам?! І што робіцца дзеля таго, каб замяніць ім тое, што ад іх забіраецца?

Ды нічога.. За тое з тых падаткаў, якія плоцім мы ўсе, значыць, плоцяць і гэныя абойдзеныя тутэйшыя сяляне, урад і сойм кідаюць вялізарныя грошы на падмогу колёністам.

Гэтымі днямі Сойм пастанавіў асыгнаваць для „асаднікаў“ **пяцьдзесят міліярдаў марак**. Ніякія пратэсты з боку беларускіх паслоў не памаглі...

Але нашы паслы, цьвёрда стоючы на тым, што тутэйшая зямля павінна перайсьці ў рукі тутэйшага-ж народу, голасна, на ўвесь сьвет сказалі слова праўды аб нашай вялікай крыўдзе. Нашы паслы ўсё споўняюць тое, што сулілі народу перад выбарамі: яны выступілі на абарону інтарэсаў нашага сялянства, на абарону нашага права на нашу зямлю.

Справа „асадніцтва“—гэта першы крык нашага пасольскага клюбу ў яго барацьбе за зямлю. Спадзяемся, што за ім будуць зроблены і другія крокі. А ўсё нашае сялянства з шчырым спогадам адносіцца да іх працы і дасьць ім сваё маральнае падтрыманьне.

**Лаўрыновіч.**

# Палітычныя падзеі.

**Францыя.** Пуанкарэ ў фінансавай камісіі, жадаючы новых крэдытаў на акупацыю Рура, адзначыў, што акупацыя ня прынясла пажаданых эканамічных рэзультатаў і толькі акупацыя ў працягу доўгага часу дась магчымасьць зьдзейсьніць праграму эксплёатацыі.

Ужо больш паўтара месяцы трывае забастоўка горнарабочых у Латарынгіі і басэйне Саары. Салідарна бастуюць усе работнікі бяз рожніцы партыйнай прыналежнасьці.

У парлямэнце ў часе дыскусіі над бюджэтам камуністы дамагаліся ад ураду, каб даў выясьненьне ў справе акупацыі Рура. Пуанкарэ адмовіўся. Дайшло да бурных сцэн. Ваеннага міністра чуць не пабілі. Старшыня парлямэнту два разы абвяшчаў перарыў, каб супакоіць паслоў.

**Польшча.** Урад выпрацаўвая праект амнэстыі для палітычных з прычыны прызнаньня Усходніх граніц.

**Літва.** Літоўскія прадстаўнікі выехалі ў Парыж у справе апрацаваньня Статуту Клайпэды.

**Японія.** Японскі парлямант, ў якім большасьць мае кансэрватыўная партыя „Seijukaj“ адкінуў праект уставы аб увядзеньні агульнага выбарнага права. Да гэтага часу ў Японіі маюць права выбіраць толькі мужчыны ад 25 гадоў, якія плацяць ня менш 3 іенаў падаткаў у год і пражываюць болей як 6 месяцаў на адным месьце. Ясна, што дзякуючы гэтаму закону пазбаўлены выбарнага права ўсе беднейшыя працоўныя клясы.

**Нямеччына.** У Бэрліне адбываюцца нарады дэлегатаў сацыял-дэмакратычнага інтэрнацыяналу з прадстаўнікамі нямецкай сацыял-дэмакрацыіі ў справе нямецкіх рэпарацыйных сплат.

У Саксоніі утварыўся чыста сацыялістычны Урад.

Французы і бэльгійцы выдалі загад аб канфіскаце на акупаваным абшары ўсіх запасаў вугля і іншых тавараў, якія былі заказаны Францыяй на патрэбу адбудовы. Бэльгійскія войскі занялі капальні вугля; нямецкія работнікі ў адказ на гэта кінулі працу і пагражаюць гэнаральнай забастоўкай.

### Украінскія дэманстрацыі ў Празе.

„Kurjer Polski“ паведамляець з Прагі, што тутэйшыя украінцы, лікам каля тысячы асоб, зрабілі мітынг, а пасьля дэманстрацыйны паход проціў прызнаньня Польшчы сувэрэнных праваў над Усходняй Галіччынай. На чале паходу нясьлі плакат з напісам: „Далоў з акупацыяй украінскага краю праз палякаў“. Украінцы пялі нацыянальныя песьні і раздавалі агітацыйныя адозвы.

### Савецкая прэса аб прызнаньні усходніх граніц Польшчы.

Перадавіца „Известий“, застанаўляючыся на пастанове Рады Паслоў у справе польскіх граніц бачыць у падарках, зробленых Польшчы Вялікімі Дзяржавамі, нарушэньне правоў народаў на самаазначэньне, падкрэсьлівае, што гэтыя дзяржавы ня робяць рожніцы паміж Расеяй і Савецкім Урадам, скіраваўшы проціў Расеі сваю варожасьць да Савецкай улады. Савецкая Расея ня можа быць не зацікаўленай у нарушэньні палітычнай раўнавагі яе заходніх межаў.

### Рэвалюцыйны рух у Індыі.

Нідзе можа ў сьвеце не пануе такі страшны клясовы і нацыянальны ўціск, як у гэтым абшырным, па колькасьці насяленьня чуць ня роўным усей Эўропе, краі, меўшым вялікую гістарычную прошласьць і стварыўшым перад вякамі сваю ўласную высокую культуру і які цяпер зьяўляецца ангельскай калоніяй — шырокай арэнай для эксплёатацыі і самаўладзтва ангельскага капіталу і адміністрацыі. Індускі народ адраджаецца і вядзе пастаяннае змаганьне за вызваленьне ад уціску чужынцаў, як шляхам культурнае працы, так і шляхам аружнай рэвалюцыйнай барацьбы.

У мінуўшым годзе рэвалюцыйны рух сярод сялянства, якоя да гэтага часу прымушана зносіць фэодальную сыстэму, дайшоў да найвысшага напружэньня. Змаганьне йшло пад знакам як клясавага, так і нацыянальнага вызваленьня. Паўстала цэлая правінцыя, Шоры-Шора, адмаўляючыся плаціць падаткі, абвешчаючы вайну заборчым уладам. Тысячы сялян далучыліся да ахвотнікаў індускага „нацыянальнага Сойму“, нападаючы на двары абшарнікаў і склады ангельскіх тавараў.

Стычкі з паліцыяй паўтараліся што дня. 2 лютага м. г. паліцыя пачала страляць у ахвотнікаў, напаўшых на аднаго абшарніка, вядомага з жорсткасьці і зьверства ў адносінах да сялян. Праз два дні 3000 сялян узнавіла напад. Паліцыя прыбыла з дапамогаю, але на гэты раз была пабіта: 21 паліцыянт былі забіты, а пастарунак паліцыі спалены. Праўда і сяляне панясьлі вялікія страты, бо мелі толькі халоднае аружжа і палкі.

Адгэтуль паўстаньне шырака разьлілося па ўсім краі. Але ўлады ангельскія мабілізавалі ўсе сілы; аб'яўлена было асаднае палажэньне, і паўстаньне ўтапілі ў крыві. Сотні сялян арыштавана, 228 індусаў станула прад судом ангельскіх заборцаў, абвінавачаных аб забойствы і паўстаньне. 172 сялян прыгаворана к павешаньню.

За забойства 22 паліцыянтаў, якія баранілі эксплёататара-абшарніка, ангельскія ўлады, зрабіла разрахунак павесіўшы 172 сялян. Гэткім чынам брытанскі імпэрыялізм і далей сее у Індыі нацыянальную і клясавую ненавісьць, і тым самым ярка паказывае, што мірнымі срэдствамі Індыя ніколі не дабьецца свайго вызваленьня.

З гэтай прычыны адзін з змагароў работніцкай клясы ў Індыі Роу зьвярнуўся да ангельскай партыі Працы з пратэстам, у якім між іншым піша:

„Зварочываемся да Вас ад імя індускіх работнікаў у імя Справядлівасьці і Права. Жадаем ад Вас, каб прызвалі да чыну работніцкую клясу Вялікай Брытаніі. Вашым абавязкам зьяўляецца дамагацца звальненьня найлепшых сыноў індускага сялянства, — ўсімі магчымымі срэдствамі, калі шлях парлямэнтарны ня зможа даць жаданых вынікаў.

Ваш абавязак прыйсьці на дапамогу індускім сялянам. Калі нічога ня зробіце, дык здрадзіце прынцыпам „свабоды і дэмакраціі“, якім, здаецца, служыце. Калі не спратэстуеце з усей энэргіяй проціў праступленьня, зробленага адносна індускіх сялян, тады зьвернемся да работніцкай клясы Англіі“.

Мы ня ведаем, як будзе рэагаваць на гэта ангельская Партыя Працы. Але на ўласным досьледзе ведаем як, мала цікавяцца цяжкім становішчам прыгнечаных народаў „сацыялісты“ пануючых нацый.

## Беларуская школа на Усходняй Беларусі.

Беларускае Цантральнае Бюро Асьветы пры Наркамаце Асьв. РСФСР зьвярнулася ў Калегію НКА з прозьбаю выдаць спэцыяльны цыркуляр аб стварэньні больш нармальных варункаў дзеля разьвіцьця беларускай культурна асьветнай працы на ўсходзе этнографічнай Беларусі. Такі цыркуляр быў выданы. Ніжэй мы друкуем поўны пераклад яго. У цыркуляры гаворыцца ня толькі аб губ. Вітабскай, Гомельскай, Смаленскай, але таксама і аб Томскай губ., бо процант беларусоў пераселенцаў у некаторых паветах гэтай губ. дасягае значнай велічыні.

1. Зьмяніць ня досьць уважлівыя адносіны мясцовых павятовых і гарадзкіх аддзелаў народнай асьветы да культурна-асьветных патрэбаў беларускага жыхарства і ўчыніць крокі дзеля стварэньня нармальна-правідловых варункаў працы.

**Увага:** Параграф гэты асабліва датычыць Вітабскай губ.

2. Зьвярнуць увагу ўсіх органаў Н. К. А. на мясцох, што асноўнай працай, дзеля немагчымасьці пашырэньня сеткі беларускіх школаў, зьяўляецца неаб однасьць учыненьня фактычных крокаў да пераводу выкладаньня ў школах I-ай ступені з пераважным лікам беларускіх дзяцей на родную мову.

3. Увесьці ў школах II-ой ступені, якія знаходзяцца ў вабласьцёх, губэрнях і паветах, населеных пераважна беларусамі, як абавязковы прадмет (ня менш 2-х гадзін у тыдзень у кожнай групе), выкладаньне беларусазнаўства (беларуская мова, літаратура, гісторыя, географія і культура).

**Увага:** Беларусазнаўства ўводзіцца таксама і ў тых школах, дзе вучні-беларусы складаюць больш 50%, хоцьбы ў гэтай мясцовасьці беларускае жыхарства складала меншасьць.

4. Увесьці на ўсіх курсах па падгатоўцы і перападгатоўцы пэдагогічнага пэрсаналу, як адчыненых, так і намечаных да адчыненьня ў бягучым годзе на тэтыторыі, населенай беларусамі, — выкладаньне курсу беларусазнаўства.

**Увага:** У адносінах да падгатоўкі пэдагогічнага пэрсаналу для беларускіх школаў пацьвярджаецца пастанова Глаўпрафобру аб увядзеньні выкладаньня курсу беларусазнаўства ў пэдтэхнікумах і інстытутах народнай асьветы на тэрыторыі, населенай беларусамі.

✦✦✦✦

**Дорошэнко.**

## Барацьба Ірляндцаў за сваю волю.

I.

У цяперашніх часах, калі ўсе паднявольныя народы розных краіх з аружжам паўсталі проці сваіх захватнікаў, вялікую ўвагу, зацікаўленнасьць і зьдзіўленьне вызывае заўзятая барацьба за сваю волю маленькая краіна—Ірляндыя. Два гады таму назад аб'явіла яна вайну свайму векавому ворагу — Англіі і да гэтага часу не пакладае аружжа. Вялікае зьдзіуленьне выклікае тое, што Ірляндыя невялічкая дзяржава, якая налічывае ўсяго свайго насяленьня чатыры з паловаю мільёны і ня маючы ніякіх подсобнікаў адважылася распачаць сьмелую адкрытую барацьбу проці магутнейшай у сьвеце дзяржавы. Англія кінула проці свайго маленькага ворага значнае войска і найлепшую зброю: вялікія гарматы, танкі, бранявікі і іншыя страшэнныя способы, выдуманыя дзеля нішчэньня людзкога жыцьця. Але ні магутнае аружжо, ні вялікае войска не зламалі сілаў геройчнага народу. І мы бачым, што магутная Англія, тая самая Англія, якая, як шахматамі йграе вялікімі дзяржавамі і робіць эўрапэйскую палітыку, мусіла скарыцца. Мусіла пачаць мірныя перагаворы з Ірляндыяй і нарэшці даць ёй незалежнасьць, праўда, не ў такой меры, як таго дабіваліся Ірляндцы. Дзеля таго яны і да гэтага часу не пакладаюць аружжа, бо бадай значная частка ірляндзкіх патрыотаў не згаджаецца на ангельскія умовы.

У чым жа моц Ірляндыі? Як магла яна з гонарам вытрымаць барацьбу проці войска, якое сваім лікам раўнялася ліку ўсяго яе насяленьня.

